Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 5. Вільня, 1 красавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Грамадаўшчына.

Легальныя арганізацыі „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“, ўжо ня істнуюць. Урад проста ўзяў і зьліквідаваў іх. Формы ліквідацыі былі самыя звычайныя. Зьяўлялася паліцыя, аб'яўляла прыказ, забірала дакумэнты і г. д.

Грамадаўцы рабілі другое: аддавалі дакумэнты, рвалі свае партыйныя білеты і мандаты, зьяўляліся з павіннаю галавою на паліцэйскія пастарункі, запэўнялі аб лёяльнасьці, пісалі пісьмы ў газэту Паўлюкевіча і г. д. і г. д., — адным словам ліквідаваліся. Абраз нудны, зьвішча прыкрае, ад якога здароваму чалавеку, чалавеку з пачуцьцём нацыянальнага гонару, хочацца адвярнуцца, як ад нейкага бруду, ад каросты і не глядзець нават у той бок, дзе сотні, а можа і тысячы, ашуканых спрытнымі спэкулянтамі, сялян-беларусаў змушаны выпіць горкую чашу сораму і чалавечага паніжэньня.

Але гэта факт жыцьця, факт беларускага жыцьця, і мала грамадзкае адвагі маюць тыя, хто пройдзець міма гэтага факту і не задумаецца над лёсам «Грамады», над тым, як яна паўставала на целе Беларускага Народу, як жыла, як бясслаўна памірала і што пакінула нам пасьля сьмерці.

Ня толькі хлебадаўцы «Грамады» і яе «экспазытура», ня толькі актыўныя прыхільнікі яе задумаюцца над гэтымі запытаньнямі. Усё беларускае грамадзянства, ўвесь народ мусіць зразумець сутнасьць і істоту „Грамадаўшчыны“, мусіць зрабіць нейкі крок наперад у сваёй нацыянальнай сьвядомасьці і забясьпечыць сябе, застрахаваць на будучыну ад падобных зьяваў. І вось мы кажам:

Так «Грамада» зьліквідована. Сябры яе разбрыліся, хто куды, але ці зьліквідована «грамадаўшчына», ці з ь л і к в і д о в а н ы той грунт, на якім вырасла гэтая ядавітая расьліна, той запаскуджаны рабскаю няволяю і жабранінаю беларускі грунт, на якім розныя палітычныя неданоскі і спэкулянты, розныя спрытныя ворагі беларускае незалежнасьці і адраджэньня, розныя «агенты» і агенцік дробнага калібру адчуваюць сябе так, як рыба ў вадзе, і круцяць і муцяць народнымі масамі, як ім падабаецца? І калі так паставіць пытаньне, калі так падыйсьці да справы «Грамады», бо іначай падыходзіць да такіх зьяваў нельга, то трэба прызнаць, трэба сказаць: Не! «грамадаўшчына» яшчэ не зьліквідована. Душа беларуская яшчэ ня вызвалена. Хворы, застарэлаю, векавою хваробаю няволі беларускі арганізм яшчэ не акрэп і не замацаваўся, нацыянальная сьвядомасьць беларуса яшчэ слабая, каб быць тою адпорнаю, натуральнаю сілаю, якая гарантуе і здаровую думку і пэўны разумны шлях адраджэньня і супрацоўніцтва з іншымі народамі.

Не! «грамадаўшчына» яшчэ жывець, бо жывець нацыянальная ненавісьць, якую пясьцілі ворагі нашага краю, бо жывець цемра народная, якая была патрэбна окупантам, бо жывець экана-

мічны заняпад краю, бо жывець усё тое, што пакінула нам мачаха-гісторыя, і не адразу разарвеш той ланцуг, якім скована была і скованай ёсьць наша беларуская думка і наша творчая сіла.

Было-б вялікаю памылкаю думаць, што «Грамадаўшчына» зьвіла сабе гняздо толькі сярод беларусаў. Ёсьць яна і сярод украінцаў і сярод палякоў. Ёсьць можа ў меншай меры, дзякуючы большай нацыянальнай сьвядомасьці, але ёсьць, бо і палякі жылі ў тых самых гістарычных варунках, у якіх жылі мы. І гэтая польская „грамадаўшчына“ выяўляецца ня толькі ў формах „Ваявудчыны“ і здрады незалежніцкім ідэалам, ня толькі ў пэсымізьме і ўпадачных настроях, але і ў формах больш актыўных і больш небясьпечных — ў бязьвер'і ў народныя сілы, ў шовінізьме, у «беларусаедзтве“ і дэмагогіі эндэцыі, ў клясавым эгоізьме, ўва ўсім тым, што спрыяець росту нацыянальнае ненавісьці і ствараець тое душнае паветра, ў якім толькі і можа жыць „грамадаўшчына“ і яе настроі.

І калі сягоньня ўрад маршалка Пілсудскага ўдарыў кулаком па відочных праявах гэтае „грамадаўшчыны“, якая тачыла народны арганізм, як польскі, так і беларускі, — то няма чаго лемантаваць і вычытваць, як гэта робяць некаторыя палітыканы. Трэба жадаць ад гэтага ўраду, каб ён пайшоў на другі крок больш паважны, каб спрыяў аздараўленьню нацыянальных адносін паміж народамі Польшчы і зрабіў усё патрэбнае і неабходнае для гэтага аздараўленьня.

І калі ў гэтым кірунку і ўрад і грамадзянства пачне сваю працу, калі закіпіць творчая работа над адраджэньнем краю, то створыцца той праўдзівы пералом, які, пакуль што, яшчэ не адчуваецца ў народных масах, але які, — ў гэта мы верым,—з няўхільнасьцю жалезнага закону прыдзе.

І толькі тагды „Грамадаўшчына“, як спадчына няволі і палітычных памылак папярэдніх польскіх урадаў, пачне зьнікаць з нашага жыцьця і як здань, як мара, застанецца ўспамінам і зьяваю мінуўшчыны.

## Сілаў ня маю я...

Грудзі збалелыя,
Сілы самлелыя,
Думкі, бы ноч.
З воч болем б'ючыя.
Сьлёзы гаручыя,
Просяцца з воч...
Сьцежка цярнёвая —
Чара жыцьцёвая —
З ядам яна.
Выпіць да дна яе
Сілаў ня маю я —
Выпіць да дна.
Грайце, ну грайце-жа!
Сілаў дадайце мне,
Струны жыцьця!
Без страхацьця тады
Вып'ю я яд гэты,—
Без страхацьця.
Грайце, сталёвыя,
Песьні маёвыя:
Казкі вясны,
Душу люляючы,
Сны навяваючы —
Дзіўныя сны...

Міхась Васілёк.

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 4 „Б.Д.“*).

На другі дзень пасьля прыезду ў Тыфліс — першай маёй справай было явіцца ў Штаб Каўкаскай Арміі, каб адтрымаць далейшыя дырэктывы. Начальніка Самаходнага Аддзелу Штабу Арміі я не знайшоў—ён быў у нейкай камандзіроўцы, мяне скіравалі да яго ад'ютанта.

Тут чакала мяне прыемная неспадзеўка: за ад'ютанцкім столікам я знайшоў ні больш ні менш, як свайго земляка і школьнага таварыша паручыка Яна М.; калі я ўгледзеў яго, адразу мне проста не хацелася верыць вачом сваім. Як, у гэнай далёкай краіне за тысячы вярстоў ад роднай зямелькі, паміж гэных дзікіх гораў, дзе натура і клімат, і дзіўная, незнаёмая мне гутарка людзей — усё было, так чужым, што чуў я сябе іншы раз, як гэная рыба, выкінутая з вады, альбо расьлінка паўночная пад гарачымі праменьнямі паўднёвага сонца, якія доўга ня вытрымаюць новых варункаў быцьця і мусяць прапасьці, — ёсьць чалавек свой, зямляк, які не прападае і жыве, мала таго, што жыве, а яшчэ ўсьмяхаецца да мяне, седзячы там, за столікам?

Ня можа быць!

Але Янка ўжо падняўся ад стала, падышоў да мяне і абхапіў сваімі жалезнымі лапамі.

Калі разгаварыліся з ім, то выйшла так, што назначэньне места майго быцьця было ў руках Янкі.

— Куды хочаш, туды і пашлю—выбірай, бо гэныя справы начальства здало на мяне,—казаў Янка.

Ён раіў мне ехаць у ваколіцы Эрзэруму, дзе і клімат лепшы, і варункі працы лягчэйшыя, а тамакі, ў Энзэлі, дзе стаіць 10-ая самаходная рота—прападзеш, ня вытрываеш, — казаў Янка. І гэткіх мне страхаў нагаварыў аб жыцьці ў Пэрсіі, што я, ня гледзячы на ўсю сваю цікаўнасьць, пачаў надумвацца.

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

# ЗОРКА з НЕБА.

Прыяжджае да нас у вёску інструктар Грамады, зьбірае ў хату сялян і пачынае сваю агітацыю.

— Браты, сяляне! Дрэнна і цяжка жыць вам на сьвеце?

— Ох, і як дрэнна! — уздыхаючы патаківаюць яму слухачы.

— Падаткі вялікія плаціце?

— Забіваюць нас падаткамі.

— Зямлі ў вас мала, і болей не даюць?—цягне далей інструктар.

— Дый што казаць, няма дзе павярнуцца.

— Школы ў роднай мове вам не даюць і растуць у вас дзеткі цёмныя, ня так, як у людзей?

— Шак усім ведама, што так.

— Селянін-беларус ня мае ніякай пашаны?

— Дзе там пашана, адзін зьдзек і паняверка,— гудзіць хата.

Парушыўшы гэтак усе балячкі селяніна-беларуса грамадаўскі інструктар, заместа, таго каб паказаць, як іх лячыць трэба, пачынае сваімі бруднымі рукамі капацца ў іх і разьдзіраць, пакуль не пачнуць крывавіць. Угледзіўшы, што з балячак выступіла сьвежая людзкая кроў, і сэрца беларуса затрапясталася ад болю, інструктар пачынае бедаваць і плакаць над запраўды горкай яго доляй - нядоляй.

Плачам гэным і бядаваньнем ён здабывае прыхільнасьць сялянства. І ў тым няма нічога дзіўнага. Кожны чалавек, які пачне выказваць зразуменьне і спачуцьцё нашаму гору, будзе вам мілым.

Здабыўшы, гэткім чынам, прыхільнасьць слухачоў, інструктар ужо зрабіў палову свае работы і пачынае далей.

— А вінаваты ўсей гэтай нядолі вашай паны — буржуі. Каб змагчы іх, — кажа далей агітатар, мы зрабілі партыю, і аб'явілі ўсім ім бязьлітасную вайну. Дык вось, сяляне, хто хоча зямлі і волі, хто хоча школы беларускай, хто ня хоча плаціць падаткаў, — запісвайцеся ў нашу партыю. Яна ўсё гэта вам дасьць.

— І ня трэба будзе падаткаў плаціць?— пытаюць сяляне.

— Партыя вас звольніць ад падаткаў,—адказвае інструктар.

— І школу дасьць?

— І школу дасьць беларускую.

— А зямлі, ці дасьць даволі зямлі?

— Па валоцы зямлі кожнаму, як запішацца ў партыю.

— Ну, аж па валоцы?

— Па валоцы, а мо' і больш, толькі запісвайцеся,—пэўным голасам заявіў інструктар, і з пагардай, згары глянуў на сялян, як глядзіць спэкулянт на гаспадара, які ня можа заплаціць яму пазычаных грошай, альбо скупец на жабрака, калі дае яму хвальшывую залатоўку.

Паглядзелі сяляне адзін на аднаго — параіліся.

— Што-ж туткі думаць, трэ' запісвацца—глядзі, гэтулькі зямлі дасьць! — І рухнулі адзін прад адным да століка, каб на кавалку паперы, хто як умеў, запісацца ў партыю. Раптам ад печкі даляцеў дзіцячы плач. Гаспадар хаты кінуўся да сына, каб супакоіць яго. Ён выцягнуў яго з-за печкі, узяў на рукі, гладзіў галоўку, але малы Антось, хлопчык 5—6 год, яшчэ больш заліваўся сьлёзамі.

— Ціха, дзетачка, ціха сыночку, чаго-ж ты гэтак расплакаўся? — пытае яго бацька. Глядзі вось, госьць да нас прыехаў, зямлі нам дасьць, вырасьцеш—багатыром будзеш.

— Дык я цуў гэта тамакі за пецкай; дзядзька ўсё вам раздаў, а мне ніцога не засталося.

---

— На скварку цябе там спаліць сонца, альбо памрэш ад малярыі ці халеры, — тлумачыў Янка.

Але цікавасьць перамагла ўва мне страхі і я рашыў такі ехаць у Энзэлі, і адтуль далей ў глыб Пэрсіі, каб пазнаць гэны дзіўны і незнаёмы мне край.

На абед Янка паклікаў мяне да сябе, а тымчасам я пайшоў аглядаць Тыфліс. Многалюдны гэны горад, сталіца Каўказу, з электрычнымі трамваямі і іншымі элемэнтамі эўропэйскае цывілізацыі, заселены армянамі, татарамі, грузінамі і іншымі народамі Ўсходу, — рабіў уражаньне нейкай мешаніны Эўропы і Азіі. Раскінуты паміж гораў, абступіўшых яго з усіх бакоў, Тыфліс ляжыць на шляху чугункі, злучаючай Касьпійскае мора з Чорным і зьяўляецца важным гандлёвым цэнтрам Каўказу. Ня гледзячы на блізкую прысутнасьць мораў, клімат Тыфлісу сухі і гарачы, бо акружаючыя яго горы затрымліваюць большую частку вільгаці і на долю Тыфлісу прыпадае нязмат яе. Горы вокал—нейкія дзікія. Ня ведаю, як яны выглядаюць вясною, альбо ўвосень ці зімою, але летам, у тым часе, як я іх бачыў, гэта былі аграмады шэрых, спаленых паўднёвым сонцам, каменных масываў, на якіх я ня мог разглядзець сьлядоў якіх-небудзь расьлін.

І як-жа я тужыў да зелені нашых лясоў і сенажацяў, да нашых ручайкоў і рэчак з іх гоманам і шумам, з іх халадком, гледзячы на гэныя шэрыя, спаленыя на скварку і быццам абсыпаныя попелам горы - волатаны. Вялканы гэныя робяць уражаньне мрацоў. Але не,—гэта не мрацы! Горы дыхаюць.

Увечары, калі сонца гасьне, выплыве месяц і загарацца зоркі на небе, дыхаюць на горад агнём, сабраным за час дзённай сьпякоты.

Гэтак у час пагоды.

А калі на небе зьбяруцца хмары, загрыміць гром і залатыя маланкі раз за разам б'юць у грудзі каменных волатанаў, дык горы таксама пачынаюць дыхаць.

— Што гэта ён там лапоча?—пацікавіўся інструктар.—Гаспадар расказаў, дзеля чаго плача сынок.

— А чаго-жбы ты хацеў, маладзец? — зьвярнуўся інструктар да Антося.

Антось насупіўся, падумаў крыху, дый кажа:

— Ўсё ўзо дзядзька раздаў гаспадаром, ніцога не засталося, дык мне хоць зорку з неба дай, — прасіў хлопец.

— Зорку з неба? бач які дасужы, зоркі захацеў! Але партыя наша і аб табе парупілася: прыдуць чырвонаармейцы, дык у кожнага на шапцы зорка, будзеш мець зорак колькі захочаш.

— Але каб не якая-небудзь, а самая настаясцая зорка была, — прасіў Антось.

— Дык вядома самая настаяшчая будзе: чырвоная, пяцікутная, — захваляў інструктар.

Калі гэтак агітаваў інструктар малога Антося, сяляне пільна слухалі гутарку неразумнага дзіцяці з партыйным палітыкам Грамады і ўбачыўшы, як ён спрытна абалгаў малога Антося, праканаўшы яго, што зорка на шапцы чырвонаармейца запраўды і ёсь запраўднай зоркай з неба, яны раптам адступіліся ад стала.

Інструктар убачыў гэта, але не зразумеў, у чым справа.

— Ну, чаго-ж, таварышы, замяліся? — падпісвайце прыгавар! — зьвярнуўся ён да сялян.

Але тыя маўчалі, панура апусьціўшы вочы.

Першы ачухаўся стары Ігнат.

— Ну, трэба ісьці жывёле закінуць, — азваўся ён і, насунуўшы шапку на вушы, выйшаў з хаты.

— Дый я пабягу, кабылку з выгану прывясьці трэба! — азваўся за ім Сымон і кінуўся праз дзьверы. І адзін за адным сяляне, выдумваючы розныя справы, пачалі пакідаць сход.

— Куды-ж вы, чакайце, — затрымліваў іх інструктар,—як-жа гэта, ад зямлі адмаўляецеся?!—крычаў ён. Але ніхто яго ўжо ня слухаў і хутка застаўся ў хаце ён адзін з гаспадаром і ўсьцешаным Антосем.

— Што гэта іх укусіла? — пытаў у гаспадара інструктар,—нават ад зямлі адмовіліся.

— Дый не адмовіліся, пане інструктар,—азваўся гаспадар, а толькі ўбачылі, што зямля, якую абяцае Грамада, так сама выглядае, як зорка на шапцы чырвонаармейца: незапраўдная яна, не настаяшчая.

— Дык вось у чым справа! — сьцяміў урэшце інструктар, пачырванеў ад злосьці і гнеўна глянуў на Антося.

— Дзядзька, глядзі, як прыедзеш другі раз — прывязі зорку! — прасіў Антось.

— Я табе пакажу зорку, с-н сын! — зароў на Антося інструктар.

Перапуджаны Антось крыкнуў не сваім голасам і кінуўся за печку. Гаспадар аж зьбялеў ад злосьці, пачуўшы гэну лаянку і выступіў у абарону сына. Ён хапіў сваімі жалезнымі рукамі інструктара: аднэй — за порткі, другой—за куртку каля шыі, і трымаючы яго гэтак, паднёс да дзьвераў, і, як нейкае сьмяцьцё, выкінуў яго з хаты.

— Вон, брыд, каб ты больш туткі не паказваўся, бо горай будзе! — крыкнуў яму на дарогу гаспадар і пачаў пацяшаць Антося.

Гэтак скончылася агітацыя Грамады ў нашай вёсцы, а Антось з таго часу зрабіўся любімчыкам усіх сялян і кожны з іх, вяртаючыся з кірмашу, прывозіў яму то абаранку, то цукерку за тое, што гэтак у час сваёй просьбай аб зорцы з неба вывеў на чыстую ваду брахню і фальш грамадаўскай агітацыі.

**С. Бярозка.**

---

Я ня чуў гэнага дыханьня, але людзі казалі, што ня дай Божа чуць яго.

Не, гэта не мрацы, яны толькі прыкінуліся мрацамі!

Паміж расьлінамі скалаў, недзе ў іх глыбі, недаступнай воку чужынца, б'е крыніца буйнага жыцьця.

Вінаград, чарэшні, яблыкі, грушы і іншыя фрукты якімі закіданы быў у гэную пару цэлы горад, родзяцца там, паміж гэных гораў.

Там жывуць людзі, там ёсьць вёскі і сёлы, там вячэрняю парою льецца песьня, ў якой сыны Каўказу пяюць аб былой вольнасьці свайго народу.

Вось якія думкі навеяў на мяне агляд Тыфлісу.

Тымчасам прышла пара абеду, і я пашоў да Янкі.

Той прыгатаваў мне неспадзеўку.

Ўжо пасьля яды, запітай добрым віном, калі мы сядзелі за чаркай кавы, ўспамінаючы Вільню, і добрыя мінулыя гады, Янка раптам азваўся:

— А ці ня хочаш ты часам песьні паслухаць? У мяне ёсьць дзяншчык, дык вось складна пяе.

Прызнаюся, прапазыцыя гэная ня радта прыйшлася мне да смаку. Я ведаў, што Янка мала разумеў у песьнях, хаця меў да іх вялікую ахвоту, і цяперака, калі ўспаміналі аб бацькаўшчыне, ўся мая істота была настроена на іншы лад: слухаць быць можа паходнай песьні якога-небудзь казанскага балаганнага пеўня—мне запраўды не хацелася, але як-жа было адмовіцца?

— Ну, давай, паслухаем,—згадзіўся я.

Янка пляснуў у далоні і крыкнуў:

— Эй там, паклічце Сямёна!

Хутка прыйшоў Сямён, дзяншчык—дзяншчыком, і, ўвайшоўшы ў пакой, затрымаўся ля парога.

— Здарова, Сямён!

— Здравія желаю Вашэ б-діе,— бойка адказаў той.

# Раскол і развал гэтак званай „Незалежнай Партыі Хлопскай“.

Апошнія дні прынясьлі вельмі цікавую вестку аб расколе сярод правадыроў „Незалежнай Партыі Хлопскай“, якая, як вядома, лічыла сябе „роднаю“ сястрою Беларускае Грамады. Памылкі і банкруцтва гэтых арганізацыяў прывялі іх з аднаго боку да глыбокага ўнутранага крызысу і развалу, а з другога боку да чыста адміністрацыйных рэпрэсіяў.

Урад проста забараніў істнаваць надалей гэтым „партыям“, лічачы іх шкоднымі для грамадзкага жыцьця.

Але найлепей за усё характарызуюць „Незалежную Хлопскую Партыю“ — самі „правадыры“ яе, якія ў асобах паслоў Сойму Бона, Шакуна і Шапеля падалі да агульнага ведама пісьмо аб „Незалежнай Хлопскай Партыі“. У гэтым пісьме яны, між іншым, кажуць:

...„Разумеем добра, што тая палітычная лінія, якая праз доўгі час праводзілася наперакор нашым пераконаньням у „Незалежнай Хлопскай Партыі“, была часта нявыразнаю і фальшываю. Перасьцерагалі няраз экспазытуру партыі, што яе палітыка вядзець да згубы працоўнае сялянства і дзеля гэтага на нас не ляжыць адказнасьць за тое, што партыя змушана ісьці ў падпольле. Яшчэ год таму назад мы стварылі опозыцыю ў „Незалежнай Хлопскай Партыі“ і фактычна былі ўжо другою партыяй...

Наша грамадзкае сумленьне не пазваляець нам у цяперашніх варунках пхаць бяднейшага сялянства на дарогу палітычнае працы ў нелегальных варунках.

Ня маем аніякага моральнага права спэкуляваць намасавых арыштаваньнях і марнаваць сялян у турмах. І дзеля гэтага з мэтодамі палітычнае працы, якія ўжывае пан Ваявудскі і яго прыхільнікі ня можам пагадзіцца і пакідаем рады „Незалежнае Хлопскае Партыі“...

Гэтае пісьмо вельмі характарнае, бо кажа нам, што і „Незалежная Хлопская Партыя“ і „Грамада“, якою фактычна кіраваў той-жа самы п. Ваявудскі, былі пабудованы толькі з аднэю мэтаю, каб, карыстаючыся крайнімі левымі лёзунгамі, ашуканствам і фальшывымі абяцанкамі, правакаваць сялянства на розныя авантуры і запіхаць ім турмы. Цяпер шыла вылазіць з мяшка. Будучына пакажа нам, наколькі шчырымі і нефальшывымі будуць паслы сялянства Бон, Шакун і Шапель і ці хопіць у іх грамадзкае адвагі, дадумаць свае думкі да канца і паставіць усе кропкі над „і“? Вестка, паданая газэтаю „Robotnik“, што арыштованы пасол Галавач таксама належыць да групы выступіўшых паслоў яшчэ больш павялічвае вагу гэтага факту, які, па нашай думцы, зьяўляецца прадвесьнікам запраўднае ліквідацыі тых прыкрых, хвараблівых зьяваў, якія сярод палякоў-сялян зьвязаны з авантурамі „Н. П. Х.“, а ў нас, на беларускай вёсцы, прынялі назоў „грамадаўшчыны“.

## Хроніка беларускага руху на Усходзе.

### *Беларускі рух на Віцебшчыне.*

Як вядома, бальшавікі доўга, аж да 1927 году лічылі Віцебшчыну расейскай губэрняй і аб легальным беларускім руху там не магло быць і гутаркі. Той, хто гаварыў пабеларуску, лічыўся контррэвалюцыянэрам і быў добра знаёмы з падвалам Г. П. У. Беларускі рух пашыраўся ў падпольлі. Пад напорам народных масаў, бальшавікі пайшлі на ўступкі і далучылі Віцебшчыну да так званае Б С.С.Р. З таго часу ў пэўных савецкіх формах беларускі рух стаў больш-менш легальным.

---

— Можаш нам што-небудзь засьпяваць?

— Так точно Вашэ б-діе! — зноў той адказаў службова.

— Ну, дык засьпявай нам арыю з „Дэмона“.

— Янка, ня трэба,—пачаў прасіць я.—Няхай лепей што-небудзь іншае засьпявае.—Песьню гэную я добра ведаў і яна мне вельмі падабалася, і проста мне не хацелася профанацыі яе. Але Янка ня слухаў мяне і толькі кінуў выцягнутаму ў струнку Сямёну:

— Ну, сьпявай!

— Слушаю вашэ б-діе! — гаркнуў зноў службова Сямён, узяў тон і пачаў сьпяваць.

Прызнаюся, першы раз арыя гэная зрабіла на мяне гэткае магутнае ўражаньне, як тады.

З першых нотаў песьні, я пазнаў, што пяе не профан, а мастак у найлепшым гэтага слова значэньні. На фоне дзікіх гораў, у сталіцы Каўказу песьня гэная зрабіла нябывала моцнае ўражаньне.

Ведама, Сямён быў мастаком першай клясы і сюды закінула яго вайна з „Малой Опэры“ Петраграду. Янка падабраў яго ў Тыфлісе і, каб ня зглуміць таленту, для формы зрабіў яго сваім дзяншчыком і ад часу да часу рабіў неспадзеўкі сваім таварышом, як тады мне.

Увечары прыйшлося мне быць з Янкам у Грузінскім Сабраньні. Гэта шыкарны клюб, у якім добра кормяць і маюць добрае віно, — вось што засталося ў мяне цяперака ў памяці ад гэнага хвалёнага Грузінскага Сабраньня.

На другі дзень я выехаў ужо з Тыфлісу ў горад Баку, дзе меўся параходам, па Каспійскім моры, даехаць да Энзэлі—партовага гораду Пэрсіі.

(Працяг будзе).

**Дзядзька Пранук.**

У першую чаргу паўсталі пытаньні чыста культурныя—аб школе, тэатры і г. д. Віцебскія беларусы змагаліся з маскоўскімі агентамі за кожны крок, за кожную пляцоўку. Змаганьне гэтае ідзе і цяпер. Дасягненьні легальнага беларускага руху за два гады там ёсьць, хоць і невялікія, што тлумачыцца труднасьцямі барацьбы. Дасягненьні датычаць, галоўным чынам, школьнае справы. Напрыклад, за 1926 г. адчынена 30 камплектаў беларускае пачатковае школы і 5 сямігодак; як на ўсю Віцебшчыну—гэта вельмі мала. Пачынаюць цікавіцца беларускаю літэратураю і кнігаю. Напрыклад, за 1924 — 1925 г. усяго прадалі на Віцебшчыне беларускіх кніг на 11.775 руб., а ў 1925—1926 г. на 20.572 рублі.

Краязнаўскае таварыства вырасла. У 1925 г. лік сяброў не перавышаў 500, а ў канцы 1925 г. перайшоў за 1000. Істнуюць праўленьні краязнаўцаў ўва ўсіх раёнах, а ў шмат якіх вёсках паўсталі краязнаўскія гурткі. Праца краязнаўцаў абмяжована пэўнымі савецкімі законамі і датычыць, галоўным чынам, зьбіраньня этнаграфічнага матар'ялу. Нядаўна надрукованы ў Віцебску слоўнік „жывое мовы Віцебшчыны“.

Адчыненьне ў Віцебску тэатру яшчэ больш павялічыла цікавасьць да беларускае культуры, і хочуць ці ня хочуць гэтага бальшавікі—беларускі рух на Віцебшчыне будзе пашырацца, расьці і ахапляць усё больш і больш народныя масы.

# Корэспондэнцыі.

## З жыцьця нашае Германаўшчыны.

З прычыны нясьведамасьці нашага сялянства, жыцьцё ўсей нашай Германаўшчыны, працякае даволі ціха, нудна, сонна. Наагул санлівасьць гэта і аднастайнасьць тлумачыцца тым, што жыхары нашае ваколіцы, знаходзяцца ў цяжкім матар'яльным становішчы. Духовай культурна-прасьветнай стараной нашага жыцьця таксама мала хто цікавіцца.

Ня гледзячы на тое, што ў нас туткі навокал адны Беларусы, праяваў беларускага руху, нешта ня відаць. Гэтаму шкодзіць тое, што ў нашай Германаўшчыне няма дзейнай ці то культурнай, ці то эканамічнай беларускай арганізацыі. Цяжкасьць палажэньня селяніна павялічваецца яшчэ і тым, што падаткі цяжкія і бяз ніякага рахунку і пляну. Селянін ня ведаець, калі і колькі трэба яму плаціць. — „Nakazów płatniczych“ то не прысылаюць саусім, то аж занадта многа. Экзэкутары бяруць, колькі хочуць, — а хто іх там спраўдзіць, ці яны робяць па закону, ці не. Вельмі прасіў-бы, каб справа падатковая была нам высьветлена ў газэце „Б. Д.“, бо гэтая падатковая справа вельмі дразьніць селяніна і проста перашкаджае яму гаспадарыць.

Я. Бяздольны
з пад Германавіч.

**Ад Рэдакцыі:** У наступных нумарох пастараемся высьвятліць падатковае пытаньне ў „Юрыдычным аддзеле“.

### СЕЛЯНІН ДА СЯЛЯН.

(Пісьмо з вёскі Сталіцы з-пад Германавіч).

Прыпадкам папаўся мне ў рукі «Беларускі Дзень». Прачытаўшы гэтую газэту, я аценіў яе вартасьць. Гэта будзе ключ адраджэньня нашае сельскае гаспадаркі, на якую апошнімі часамі ніхто не зьвяртае жадная ўвагі.

Дык, браты Сяляне! Ня трацьма часу, а безадкладна падпішэмся на найлепшую для нас газэту «Беларускі Дзень». Памятайце, што толькі тагды мы паставім добра сваю гаспадарку, калі будзем чытаць гэтую паважную сялянскую, гаспадарчую газэту і карыстацца яе парадамі.

Селянін Я. Б.

# АД РЭДАКЦЫІ.

Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“ маець арганізаваць

**СЕТКУ СВАІХ КОРЭСПОНДЭНТАЎ НА ПРОВІНЦЫІ.**

Дзеля гэтага зьвяртаемся да ўсіх, хто можа пісаць, каб прысылалі свой адрэс, імя, прозьвішча (да ведама Рэдакцыі) і варункі, на якіх згодны супрацоўнічаць у газэце. Пажадана пробная корэспондэнцыя.

# Памылкі „Грамады“.

Як вядома, „Грамада“ лічыла сябе легальнаю беларускаю партыяй. Так было на паперы, ў „грамадаўскім“ друку, на словах. Але ў жыцьці, ў запраўднасьці, ці была „Грамада“ партыяй?

Не і сто разоў—не! Бо кожная партыя засноўваецца, мацнее і жывець на падставе свае незалежнасьці ад іншых партыяў.

Незалежнасьць — гэта грунт, бо толькі яна дае магчымасьць палітычным аднадумцам апрацаваць с в а ю ў л а с н у ю праграму, с в а ю ідэолёгію, с в а ю тактыку і мець заўсёды вольныя рукі для палітычных дзеяў.

Ці было ўсё гэта ў „Грамадзе“?

Склееная на скорую руку, на заказ, на сэзон, „Грамада“, ад самага пачатку была ахвярована на злом, бо ня толькі праціўнікі Грамады, але і яе закладчыкі і арганізатары не маглі-б адказаць на пытаньне, якую галоўную ідэю ставіць сабе Грамада і ці доўга зьбіраецца жыць?

З „праграмы“ Грамады, каторая недзе, некім была напісана, нічога ня было відаць. Там было ўсё: і „дэмакратызм“, і „рамкі конституцыі“, за якія Грамада ня зьбіралася выходзіць, і злучэньне беларускіх земляў пад нейкім няістнуючым нідзе „сялянска-работніцкім урадам“ і зямельная рэформа і, адным словам, ўсё, але ня было галоўнага, ня было кіраўнічае шчырае думкі, ня было ідэі.

Ставім кропкі над „і“. Праграма „Грамады“ была ф а л ь ш ы в а ю і напісана больш для ўраду, чымся для сяброў „Грамады“, якія павінны былі „верыць“ у гэтую праграму і аддаваць за яе сваё жыцьцё. І „дэмакратызм“, і „конституцыя“ і ўсё— было разьлічана толькі на тое, што ўдасца некага ашукаць.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як трэба загаспадараваць калёніі (парцэлі).

(*Гл. № 4 „Б.Д.“*).

Параўнаўчая табліца (поўназямельная гаспадарка ў 9 гэктараў зямлі)

| 3 палеткі па 3 гэктары | Зборы ўраджаяў | 9 палеткаў па 1 гэктару | Збор ураджаяў. |
|---|---|---|---|
| Чорны ўгор | Благія, нікчэмныя | Зялёны ўгор | |
| | | Канюшына | Збор сена ў 1-м годзе 300 пудоў. |
| | Паша $^1/_2$ лета | Канюшына | Збор сена ў 2-гім годзе 450 пудоў і паша $^1/_2$ лета |
| Азіміна на слабым гнаі | Ураджай 40 пуд.<br>Ураджай 40 пуд.<br>Ураджай 40 пуд.<br>120 пудоў | Азіміна | Ураджай 60 пуд.<br>Ураджай 60 нуд.<br>120 пуд. |
| | | Азіміна | |
| | | Канюшына | Паша |
| Авёс | | Авёс | Ураджаі ў паўтарара або ў 2 разы большыя |
| Бульба | | Бульба | |
| Лён | | Лён | |

пры сярэдніх мінімальных ураджаях, як у першым, так і ў другім выпадку, розьніца раўняецца: 450 пудоў сена канюшынаў і павялічаныя ўраджаі яравых і акопных.

З вышэйпаказанага параўнаньня выходзіць, што хоць новы абшар, абсеяны азімінай, меншы на $^1/_3$, замест 3 га жыта маем 2 га жыта, але бяручы пад увагу, што на адным палетку абшарам 1 га жыта было пасеяна (паводле ўложанага пладазьмену) на ўгоры, дзе мы мелі магчымасьць палажыць гною ў тры разы болей—гусьцей, чымся дасюль клалі, бо раней павінны былі тою самаю колькасьцяй гною ўгнаіць 3 га ўгору, рэзультатам чаго 1 га зямлі дае ўраджай жыта ў паўтара або ў 2 разы большы, гэта значыць, сьмела і груба рахуючы, дапусьцім, што адтрымаем замест ранейшых 40 пудоў—60 пудоў з га.

Другі палетак жыта, які будзем мець (паводле ўложанага пладазьмену), па канюшыне, дасьць таксама блізка. што падвойны ўраджай,—бо зямля будзе яшчэ мець у сабе сьляды моцнага ўгнаеньня па ўгоры, а таксама будзе ўзмоцнена, дзякуючы пэўным свойствам канюшыны, азотам, дзеля гэтага лічым, што 1 га жыта таксама дасьць замест 40 пудоў—60 пудоў, што разам будзе раўняцца з двух га 12 пудом, значыцца столькі, колькі ранейшыя 3 га зямлі.

Гэта значыць, што зьменшаньне колькасьці жытніх палёў на 1 га не прынясло нам страты, — бо дало тую самую колькасьць жыта, а ў будучыні (пры датарнаваньні пладазьмену ў поўнай меры) і болей, а выгралі мы на гэтым 1 га вольнае для свайго распараджэньня зямлі.

Цяпер, што датычыць чорнага ўгору, які дасюль займаў $^1/_3$ часьць нашае зямлі і служыў пашаю; што гэта была за паша, аб гэтым хіба няма чаго й казаць, адным словам $^1/_3$ часьць ворных палёў марнавалася, сьмела можна сказаць — ляжала адлогам, бяз ужытку. Праўду кажучы, зямля, лежачы адлогам, адпачывае і набірае сілы для даваньня пладоў, але ня ў гэткіх варунках, як гэта робіцца на старых вя-

---

Ініцыятары „Грамады“ забыліся толькі аб адным у сваёй праграме, што ашуканствам увесь сьвет можна прайсьці, але назад трудна вярнуцца.

* * *

Арганізована „Грамада“ была таксама фальшыва, ня з нетраў народных, а зьверху, паказённаму. Возьмем, напрыклад, яе „экспозытуру“, альбо як яе важна называлі „Цэнтральны Сэкрэтарыят“. Хто яго выбіраў, на якім зьездзе? Ніхто не адкажа. Як той Ноеў каўчэг, гэты, з пазваленьня сказаць, „Цэнтральны Камітэт“, з каго-каго толькі ні складаўся!

І бышыя кадэты, і бышыя „соцыялістыя“, і незалежнікі, зрабіўшыя крок назад, і бышыя дэнікінцы, зрабіўшыя крок наперад, і „атэістыя“—і хрысьціяне-мэтодыстыя з парафіі Вітта,—усе былі там, усіх нейкая хвароба ўзяла за вушы і засадзіла за стол „Грамады“.

У нармальных варунках гэтыя людзі ніколі б ня былі ў аднэй палітычнай арганізацыі, але тут прыказалі:

— Садзіся і працуй „во славу русского оружия!“

Не „Цэнтральны Камітэт“ гэта быў, а нейкі паяц, які крыўляўся перад народнымі масамі і рабіў „чырвоную міну“,—а ў запраўднасьці граў ролю нейкага лёкая, служкі і напэўна ня верыў у тую „справу“, аб якой так шмат пісаў і гаварыў. Гэта быў нейкі зьдзек, нейкі садызм над беларусамі.

Не «Грамада» гэта была, а «грамадаўшчына», якую спрытна выкарысталі розныя агенцкі збанкрутаваўшых на нашым грунце бальшавікоў.

* * *

Які поп, такі і прыход. Провінцыя выглядала яшчэ горай. І бышыя расейскія вураднікі і пісар-

сковых палетках. Дзеля гэтага пакінем назаўсёды звычай гэтак вялікага ўгору, пакінем пад угорам замест 3 га, ў нашым прыкладзе 1 га, што будзе раўняцца 1/9 часьці абшару зямлі, а 2 га скарыстайма таксама паводле свайго распараджэньня, што разам дае нам вольных 3 га; вось-жа, бяручы пад увагу, што на зьліквідаваньні цераспалосься і ўгору, які звычайна служыў супольнаю пашаю вёскі, а таксама, бяручы пад увагу, што сярэдні гаспадар, (а што ўжо й казаць аб малазямельным), звычайна адчуваў недахоп сена — корм для інвэнтару—скарыстайма гэтыя 3 га вольнае зямлі на стварэньне добрага сенакосу і пасьбішча, ласьне ўвядзем у наш пладазьмен канюшыну. Рэзультат гэтага скажацца, як у байцы: канюшына, ўсеяная ў ярыну або лепш у азіміну (вясною), — бо зямля зьяўляецца лепей выробленаю і ўгноенаю, што таксама добра ўплыве на разьвіцьцё канюшыны, — дасьць у першым годзе двукосную, прыгожую, скажам гэтак, сенажаць, сярэдні ўраджай якое выразіцца,—пры скромным абліччэньні,—каля 300 пудоў сухога канюшыннага сена з 1 гэктару. На другі год той самы палетак яшчэ будзе служыць, як сенакос, праўда колькасьць сена будзе меншая, але заўсёды пры адным укосе дасьць у сярэднім нейкіх 150 пудоў і яшчэ ў другой палавіне лета можа служыць, як пасьбішча для коняў і кароў; і толькі на трэцяе лета тое самае поле служыць яшчэ пашаю ў першай палавіне лета, таму што пасьля павінна быць падрыхтована (пры нашым пладазьмене) на засеў азіміны. Гэткім спосабам выграваем начыста 3 га зямлі, якія нам дадуць 400 пудоў канюшыннага сена і на абшары 1 — 2 га добрую пашу, а таксама агульнае павялічэньне ўраджаяў азіміны і ярыны прынамсі ў паўтара раза, праз правядзеньне ў грунт азоту, дзякуючы канюшыне, якая выклікае пэўны працэс у зямлі, гэт. званую „нітрофікацыю“, палепшаньне структуры грунту і ўзмацненьне яе спажыўнымі складнымі часьцямі для кармленьня расьліны, якія, глыбока растучыя, карэньні канюшыны, дастаюць з глыбейшага пласта да верхняга пласта грунту.

Усё гэта разам дасьць гаспадару магчымасьць утрымаць на сваім надзеле—большую колькасьць быдла, чымся ён меў дасюль у вёсцы на шнурох. Павялічэньне колькасьці быдла дасьць павялічэньне колькасьці гною, які ў сваю чаргу узмоцніць яшчэ лепей палеткі (пад азіміну і акопныя — бульбу), што зараз-жа зробіць добры ўплыў на плады.

Засьцерагаю, што вышэйпрыведзены прыклад пладазьмену не зьяўляецца адзіным; ўлажэньне пладазьмену трэба ўзалежніць ад роду грунту, мясцовых гаспадарчых і рынкавых варункаў. Напрыклад, можа быць пладазьмен гэткі:

1 палетак: зялёны ўгор (лубіны, сарадэля).
2 „ жыта (з падсевам канюшыны).
3 „ канюшына (сенажаць).
4 „ канюшына (паша).
5 „ авёс, ячмень, лён.
6 „ акопныя, бульба (з гноем).

Альбо на пясчаных лёгкіх грунтох, на якіх канюшына не ўдаецца, можна зрабіць гэткі пладазьмен:

1 палетак: лубін, сарадэля на зялёны гной.
2 „ жыта.
3 „ авёс, грэчка, віка.
4 „ бульба, акопныя (з гноем).

А таксама й іншыя. Аб улажэньні пладазьмену трэба парадзіцца з аграномам або з дасьведчаным у земляробстве гаспадаром, бо йдзе тут аб правільнае ўлажэньне зьменьваньня, каб сеяныя адна пасьля другой расьліны траплялі ў гэткую чаргу, каб сапраўды далі прырост ураджаю, інакай кажучы, карысным перадпладом для чароднага плада (расьліны).

У рэзультаце ўвядзеньня рацыянальнага пладазьмену і адрачэньня ад дасюлешняе трохпалёўкі, стан гаспадаровай заможнасьці ў некалькі разоў павялічыцца.

Прыклады гэтага ўжо маем.

*(Канец)*.

---

чукі, выбітыя з каляіны, і проста шпікі-правакатары і агенты Г. П. У.—асабліва каля граніцы,—і абруселыя інтэлігэнты беларускага паходжаньня — ўсе патроху жыравалі на целе беларускага селяніна і правакавалі яго, запісваючы ашуканчымі спосабамі цэлыя вёскі ў гэтую „Грамаду“, якая раздувалася, як мыльны пузыр.

Ня будзем заплюшчаць вачэй. Ішлі ў «Грамаду» часам і сьвядомыя беларусы, быўшыя незалежнікі, якія ўпалі духам і зьвераліся ў сваю ідэю; ішлі за Тарашкевічам, Ракам-Міхайлоўскім, за іншымі асобамі, якім верылі, ішлі і растапляліся ў агульных настроях Грамады, гублялі свой беларускі твар. Няхай па паходжаньні і складу „Грамада“ была беларускай, але па духу? Гэта быў бязумоўна крок назад, гэта была Мураўёўшчына навыварат, пра якую вельмі трудна было сказаць, ці яна была чырвонаю, ці чорнаю.

Арганізацыйная фальш Грамады, яе залежнасьць, корань усяго таго, што ў Грамаду забраўся розны цёмны зьдэклясованы элемэнт, які сягоньня ахвотна сьпявае „Паўстань праклятцьцем“, а заўтра з такою-ж ахвотаю засьпявае што-небудзь іншае ў залежнасьці ад таго, хто будзе сядзець на маскоўскім троне.

* * *

Але дапусьцім на мінуту, што гэта была запраўдная беларуская радыкальная партыя, якая замахнулася на манаполь у беларускім руху і хацела зрабіць крок наперад, хацела стварыць нейкі адзіны фронт беларусаў у «Грамадзе» — і праз яе дабіцца незалежнасьці і аб'яднаньня Беларусі.

Так, бязумоўна, думалі некаторыя „грамадаўцы“. Калі так, то трэба было быць лёгічным і ісьці да канца.

# НАМ ПІШУЦЬ

## АБ ПАБОЧНЫХ ДАХОДАХ ЗЕМЛЯРОБА.

Прыйшла, нарэшце, вясна. Людзі заварушыліся падругому, адкінуўшы ўсялякія думкі, што чаўпаліся ўзімку. Стуканула ў сэрца земляроба жыцьцёвасьць веснавой творчасьці. Яшчэ ляжаць раскіданыя па палёх пялёнкі сьнегу, а ўжо хочацца, каб хутчэй выпаўзьці на ральлю, каб хутчэй, поруч з тым, хто творыць вясну, тварыць жыцьцё...

Але хлебароб, сумуючы, ўзіраецца на свае вузкія палёткі і ў яго думцы адно толькі, што мала зямелькі. Няма хорашасьці, павольля, як тым птушкам ў паветры. Вялікі сум у сэрцы хлебароба і вялікі жах агартае яго думкі, як жыць на сьвеце? Заробкаў няма і што трэба іх мець хіба кожны хлебароб гэта сабе ўцяміў. Цяжка хлебаробу! Дык ці ёсьць выхад з гэткага палажэньня? Практыка даказала, што ёсьць. Трэба толькі ўзяцца за дзела і не хадзіць, спусьціўшы рукавы, і ждаць нейкай палёгкі, бо прыслоўе кажа: «Пакуль сонца ўзойдзе, дык раса вочы выесьць». Але як узяцца і за што? А вот за што: 1) трэба ўзяцца за арганізацыю суполкавых малачарняў, 2) за вырабку торфу на апал, 3) за пчалярства, ці 4) за разьвядзеньне рыбы ў ставох.

Усе гэтыя прадпрыемствы дужа карысныя, але нясупалкай выкарыстаць іх бадай нельга, апрача разьвядзеньня рыбы ў ставох, на каторым ня лішне крыху супыніцца, як на шмат лягчэйшай і таксама даходнай стацьці.

У кожным пачынаньні якога-колечы прадпрыемства знойдуцца труднасьці, але пры вялікай энэргіі пачынальніка яны касуюцца. Як мы ведаем, найлепей кожнае прадпрыемства рабіць суполкай, а за разьвядзеньне рыбы, бадай аднаму, можна ўзяцца, бо тут не вымагаецца вялікае затраты капіталу. Як ведама, каб выкапаць стаў шырынёю 4 саж., даўжынёю 8 саж. і глыбінёю 1 саж., на наём капачоў трэба расходаваць прыблізна 100 злотых.

Як рыбу завясьці, хіба кожны ведаець, але перад усім радзіцца заводзіць карпаў, каторыя хутка расплоджваюцца і растуць вельмі скора, калі карміць іх мясам (каніная і інш.). Праз тры, альбо пяць гадоў гаспадар не нацешыцца сваёю працаю і ўжо так уесца ў яе, што ніколі не пакіне, бо будзе мець досыць заробку.

Дык, гаспадары-земляробы, да новай працы і культуры!

А для ўсебаковага высьвятленьня гэтага прадпрыемства няхай зацікаўленыя асобы пішуць у газэту „Белар. Дз.“.

Янка Тарыкоў.

Вёска Лужкі,
Дзісьненскага павету.

## Гаспадарчыя парады.

### Аб вясьнянай працы на полі.

Трэба сьцерагчыся абрабляць зямлю, пакуль яна яшчэ, як мае быць, не абсохла. Зямля, калі яна яшчэ занадта мокрая і бярэцца за земляробскія прылады, за плуг, барану ці пружыноўку, будучы ўцісьненай і прыгладжанай жалезам, ссыхаецца пасьля, быццам цэгла, творыць скарынку і цьвёрдыя груды. Гэтак вырабленая зямля ў далейшым ня дасца добра вырабіць; пры чародным выраблянвьі застаецца ў цьвёрдых грудах або рассыпаецца, як попел. У гэткі час вырабленая зямля псуецца на ўсё лета, таму што ня хутка яна вяртаецца да свайго добрага стану. Ужо спрактыкована, што на вырабленай у вельмі вільготным стане зямлі, ураджай бывае звычайна значна горшы, а часам і зусім не ўдаецца.

Ня толькі вясною, але і ў працягу ўсяго лета, нельга чапаць зямлі тады, калі з раньняе вясны, ці

---

Трэба было **ня толькі востра крытыкаваць польскі ўрад і яго палітыку**, **трэба было бараніць беларусаў** ня толькі тут, але і там, на тым баку граніцы, трэба і там закладаць „Грамаду“—няхай нелегальную, няхай меншую лікам! І каб гэта было так, каб Грамада таксама востра выступала і проціў бальшавікоў—вось гэта была-б праўдзівая беларуская народная арганізацыя, праўдзівая беларуская «грамада» ў абарону якое стаў-бы кожны беларус і кожны паступовы чалавек бяз розьніцы нацыянальнасьці.

Але гэтага, нажаль, ня было. На Ўсход „Грамада“ вароты сама сабе зачыніла.

У праўдзівасьці-ж мы бачым **толькі барацьбу проціў польскага ўраду пры поўнай лёяльнасьці да бальшавікоў і іх окупанцкае палітыкі на Ўсходзе.**

Ці магла такую палітыку весьці праўдзівая беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, якою лічыла сябе „Грамада“? Не—і сто разоў не! І гэта разумелі некаторыя ацьвярозеўшыя грамадаўцы, якія пакінулі яе рады яшчэ да ліквідацыі.

* * *

Прадаўшы сваю душу, сваю незалежніцкую думку, кіраўнікі „Грамады“ папалі ў зачараванае кола і не маглі мець ні вольных думак, ні вольных ідэяў.

Гэтым тлумачыцца трэцяя памылка „Грамады“, якая з няўхільнасьцю закону прывяла яе ў цёмны кут развалу і ліквідацыі. Паўстаўшая да маёвага перавароту ў варунках надзвычайна хворых нацыянальных і соцыяльных адносін Грамада **зусім не зразумела** гэтага маёвага перавароту, які бязумоўна пачынаець, хоць і паволі, нейкі новы этап у гісторыі Народаў Польшчы. Замест таго, каб троха глыбей задумацца над яго значэньнем, над будучнаю ідэі неза-

затым пасьля дажджоў бярэцца яшчэ за земляробскія прылады і конскія капыты.

### А калі зямля ўжо добрая для вырабу.

Аднак-жа й доўга чакаць на занадта моцную перасуш зямлі нельга. Кожны земляроб павінен добра знаць характар свайго грунту і ўжо з практыкі ведаць, калі пачаць яго выраб. Тут трэба пільнавацца і, як кажуць, схапіць адказны мамэнт.

Вельмі рана—блага і пазьніцца нядобра, бо зямля з а ш м а т перасыхае. Часамі, пасьля марозьлівай зімы, зямля глыбей яшчэ зусім і не адпусьціць, а зьверху ўжо гатовая да вырабу. Тады чапаць нельга.

### Вятры і вясьнянае сонца вельмі скора высушваюць зямлю.

Калі вясною зашмат мокрую зямлю вырабляць нядобра, дык гэтак-жа сама трэба пільнаваць, каб яна занадта не засохла. Вятры й вясьнянае сонца вельмі шпарка дзеюць і сушаць зямлю. Вада з зямлі шпарка выпарваецца, губляе цёмны колер і пачынае зьверху расколвацца. Тут кажам аб зямлі зворанай на зіму, хаця й нязвораная зямля таксама сохне і расколваецца, але ў акуратнага земляроба не павінна быць нязворанае перад зімою зямлі.

Моцна перасохшая зямля робіцца пасьля труднаю для добрага вырабу. Яна творыць зьверху скарынку, а пры чародным вырабе зьбіваецца ў груды і распыльваецца ў дробны перасохлы парашок, нягодльны да прынятку засеву, а пасьля вясьняных дажджоў ён лёгка творыць скарынку. Наагул распыльваньня зямлі ў часе вырабу трэба моцна ўхіляцца, таму што праз гэта зямля губляе свае добрыя асаблівасьці.

### Ашчаджай вільгаць у зямлі вясною, бо спатрэбіцца пасьля.

Калі мы прызналі, як першую запаведзь для земляроба: не марнаваць часу вясною, дык другою запаведзяй будзе: н е м а р н а в а ц ь в і л ь г а ц і з я м л і. Кожны з практыкаў ведае добра, як зьяўляецца патрэбнаю вільгаць ужо ў канцы вясны і ў першай палавіне лета. Найчасьцей у нас бывае зашмат вады ў другой палавіне лета (пасьля Яна), а недахоп яе аказваецца вельмі часта тады, калі яна найбольш патрэбна. Блага скончым, калі будзем мець надзею толькі на дажджы. Не заўсёды, калі трэба, прыходзіць дождж, а часьцей бывае, што ён ідзе, калі мы яго й ня хочам.

Вось-жа, пасьля васеньніх слотаў і разам з сьнегам, у зямлю ўходзіць вельмі шмат вільгаці. Тае вільгаці, што зьбіраецца ў зямлі пасьля зімы, можа хапіць надоўга, аднак-жа яе трэба ўмець ашчадна захаваць. Трэба ведаць, што ў зямлі, калі яна ляжыць нечапанаю, робіцца шмат-шмат драбнюсенькіх, як валасінкі тонкіх, канальчыкаў, праз якія вада зысподу падцякае да паверхні зямлі, а затым вылятае ў паветра. Зямля мае асаблівасьць тварыць гэтыя канальчыкі заўсёды, але найболей іх ёсьць вясною, калі ў зямлі ёсьць шмат вільгаці, а сонца і вецер—сушыць. Апрача таго, пры высыханьні робяцца, асабліва на тугім грунце, шчыліны, праз якія таксама шмат вады ўцякае.

Каб не дапусьціць да таго, што вада будзе ўцякаць праз гэтыя валасінкавыя канальчыкі і шчыліны, дык трэба іх зьнішчыць, а лепш кажучы, перарваць іх доступ да паверхні зямлі, каб не маглі яны выпушчаць вады ў паветра. Зрабіць гэта можна мелкім разьдзіраньнем зямлі на яе паверхні. Калі паверхню зямлі мелка паварушым, дык як быццам перарвём канальчыкі і гэтым вільгаць будзе ў зямлі затрымана. Аб гэтым даскнальна даўно ведаюць агароднікі, якія кажуць, што варухаючы паверхню зямлі робім так, як быццам яе паліваем. Тое самае робіцца і з цэлым полем. Умелым варушэньнем зямлі на яе паверхні, затрымліваем вільгаць і ашчаджаем яе на той час, калі яе можа не хапіць. І не дарма вучоныя земляробы кажуць, што ўмелым вырабам зямлі

---

лежнасьці і павярнуць кола ў бок гэтае ідэі, „Грамада“ аказалася палітычным сьлепаком. Правадыры „Грамады“ не зрабілі нават таго, што зрабіў Васыньчук з яго незалежніцкаю фракцыяй, які парваў з украінскім „сель-робам“ за яго маскоўскую орыентацыю і маскоўскае кіраўніцтва.

Як дзятлы, „грамадаўцы“ цьвярдзілі ўвесь час, што маёвы пераварот не пераварот, і гром гарматаў ня быў громам гарматаў, а так нешта такое, над чым беларускі незалежніцкі рух мусіць прайсьці да парадку дня.

Тымчасам выйшла інача. Гісторыя пераходзіць да парадку дня над „Грамадою“. Хто ў гэтым вінават?!—Бязумоўна толькі той, хто зьверыўся ў ідэалах незалежнасьці і зрабіў, скалаціў нейкую „Граматду“, якая стала ахвяраю сваіх уласных фатальных памылак.

* * *

„Грамада“ паміраець і развальваецца. Але беларускі народ не памрэ. Ён будзе жыць і застанецца на месцы, на сваім грунце. З пяску і гліны ён дабываець сабе кусок хлеба і будзе вучыцца на памылках сваіх фальшывых „грамадаўскіх“ правадыроў, якія аказаліся недастойнымі свайго краю і ідэі яго „адраджэньня“

*Не-палітык.*

можна ашчадзіць вільгаці на ўсё лета і гэтым ухіліцца ад фатальных рэзультатаў засухі.

Нашыя земляробы звычайна не дацэньваюць значэньня вільгаці для ураджаю. Вада зьяўляецца найважнейшым варункам для росту расьліны. Калі яе ў патрэбнай для расьліны меры будзе недахоп, дык не памогуць іншыя стараньні земляроба, не паможа гнаеньне, ані не памогуць дарагія штучныя гнаі. Скажэм сабе, што вада для расьліны — найдаражэйшы і найнеабходнейшы гной. Расьліны патрабуюць яе заўсёды, але найбольш недахоп яе адчуваюць у тым стане свайго росту, калі яшчэ ня зусім закарэняцца, калі карэньмі сваімі не дасягаюць глыбейшых пластоў зямлі, дзе ёсьць вільгаці болей. Праз гэта найгорш адчуваюць засуху ў канцы вясны і ў пачатку лета. А дажджу тады, як гэта ў нас бывае, звычайна маем замала.

І дзеля гэтага так важнаю зьяўляецца тая, якая сабралася за зіму, вільгаць, якую цераз нядбайны выраб як-бы сумысьля выпушчаем у паветра і марнуем. А як-жа часта відаць земляробавы грахі ў гэтым сэнсе. З я м л я, якая прыгожа выглядае пасьля зімы, пад уплывам ветроў і сонца высыхае і як-бы вяне, а земляроб мала аб гэтым дбае і прыступае да вырабу яе тады, калі ўжо добра яе высушыць. Дарэмна дзярэ яе баронамі і спружынамі — яна ўжо ня вернецца ў свой добры стан, бо па віне земляроба згубіла сваё добрыя асаблівасьці і свой неабходны клей, якім ёсьць умяркованая вільгаць. У перасушаную і перапаленую ральлю сыпле пасьля зярняты, якія часта доўга-доўга ляжаць, чакаючы дажджу, марнуюць дарагі час, а ў рэзультаце даюць шмат меншы ўраджай.

**Першы вясьняны выраб — раньняе баранаваньне перадзімовае арбы.**

Як толькі можам на ральлю вылезьць, гэта знач. калі ральля ня мажацца, дык — б а р а н у й м а ў с ю п е р а д ʻ з і м о в у ю а р б у. Баранаваньнем ральлі ў пару якраз зробім тое, аб чым раней мы казалі—ашчадзімо вільгаць у зямлі. Апрача таго, раньняе баранаваньне мае й іншае значэньне. Баранаваньнем разьдзіраем скарынку, праз якую ў грунт не магло ўходзіць паветра. А паветра ральля чакае, бо яно неабходнае для яе выдабрэньня.

Раньняе баранаваньне дае яшчэ адно дабрадзейства. Насеньне зельляў, якое знаходзіцца ў зямлі ў вялізарнай колькасьці, выцягненае зубамі бараны на паверхню, шпарка пачынае пушчаць храсткі. А як абрасьце імі, дык тады дамо ім па баку і лягчэй іх вынішчым, каб пасьля ня глушылі засеву.

Дык і памятайма, што першай работай і перш за ўсё — павінна быць баранаваньне зімовае ральлі. Перш за ўсё ўсе палеткі збаранаваць, а пасьля ўзяцца за сяўбу.

---

# Да сьвяткаваньня 9-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

### Адозва да Беларускага Грамадзянства.

Некалькі сяброў бышага Прэзыдыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якія знаходзяцца сягоньня ў Празе, зьвярнуліся 25 сакавіка з адозвай да Беларускага Грамадзянства, у якой, паміж іншым, пішуць:

...„Дарма Адамовіч (старшыня Савету Нар. Камісараў) у Маскве распаўсюджвае ілжу, што Беларускі Урад зьліквідаваўся сам па сабе, а беларуская інтэлігэнцыя перайшла на службу Саветаў. Што гэта ня так, — прызнавалася ў свой час і савецкім афіцыёзам „С. Б.“ у артыкулах здраднікаў Незалежнасьці.

Лішнім доказам служыць гэтаму і сьвяткаваньне дзевятай гадавіны Незалежнасьці Б. Н. Р. заграніцай і на Бацькаўшчыне. Тое самае сьведчаць і галасы, даходзячыя да нас з Савецкай Беларусі.

Нязломная вера ў будучыну дае нам сілу сказаць усяму беларускаму грамадзянству, што толькі ў незалежнасьці — залог нашага нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня.

Няхай жыве незалежнасьць Беларусі! На дапамогу ёй павінны паўстаць усе жывыя сілы Беларускага Народу“.

25-га сакавіка беларуская калёнія ў Празе ўрачыста сьвяткавала дзевятыя ўгодкі прагалошаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У сьвяткаваньні прыймалі ўдзел усе беларускія арганізацыі за выключэньнем зьменатычніцкіх і камуністычных.

Прачытаны рэфэрат на тэму: Незалежнасьць—падстава нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня.

П. Крачэўскі.

### Сьвяткаваньне ў Вільні.

Сьвяткаваньне 9-х угодкаў абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі пачалося набажэнствам у касьцёле сьв. Мікалая. Пасьля набажэнства ў касьцёле, адбылося набажэнства ў праваслаўным Прачысьценскім Саборы. На набажэнствах было шмат моладзі і прадстаўнікоў старэйшага беларускага грамадзянства м. Вільні.

Увечары а 7 гадз. адбылася ўрачыстая акадэмія ў салі Жоржа, ладжаная паслом Ярэмічам. Акадэмію пачаў прамовай пасол Ярэміч, які ў кароткіх словах адʻзначыў гістарычнае значэньне акту абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Канчаючы сваю кароткую прамову, пасол Ярэміч запрапанаваў ушанаваць устаўаньнем загінуўшых змагароў за Беларусь. Пасьля ўзяў слова пасол Рагуля, які абрысаваў гістарычнае падложжа беларускага руху, адчытаў грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 году, якою была абвешчана незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, зазначыў, што хаця далейшыя выпадкі не дазволілі ўтрымаць сувэрэннасьць маладое Рэспублікі, аднак акт гэты будзе для Беларускага Народу крыніцаю энэргіі ў працы.

Прывітаньні ад іншых народнасьцяў прамаўлялі: ад ліцьвіноў грам. Вялецкі, які выразіў жаданьне, каб і братні ліцьвіном народ Беларускі, дасягнуў нарэшце таго, што ўжо мае — літоўскі.

Ад палякоў прамаўлялі адвакаты: Міцкевіч і Абрамовіч; апошні, скончыў сваю прамову воклікам—„Няхай жыве Незалежная Беларусь“!

Апошнім прамаўляў д-р Янка Станкевіч, які ў сваёй прамове адʻзначыў той факт, што сьвята гэта, гэтак важнае для Беларускага Народу, не сьвяткуе яшчэ ўвесь Народ, як павінна было-б быць, і што трэба сьвяткаваць не за чаркай

гарэлкі, а за працаю, — сэнс апошніх словаў аднёс да маладых, як да будучае апоры Беларускага Народу.

Ўрачыстая акадэмія наагул выйшла бледнавата, што адчуў шмат хто з прысутных, а гэта таму, што дзякуючы неарганізованасьці, ці то асабістай неахвоце тае жменькі беларусаў, якія знаходзяцца ў Вільні, абходзілі сьвята ня ўсе разам. Ня было таго пад'ёму, духу, тае энэргіі, якая нам так патрэбна ў цяперашні час.

Другая частка беларускага грамадзянства, як напрыклад прыхільнікі Грамады, сьвяткавала асобна.

Пасьля акадэміі ў салі Жоржа адбылася скромная гарбатка.

На ўрачыстасьці было 5 асоб, якія 25 сакавіка 1918 году, ў ліку іншых сяброў Рады Рэспублікі, непасрэдна абвяшчалі незалежнасьць.

Прысутны.

# Палітычныя навіны.

Украінскі царкоўны зьезд у Луцку выдаў адозву, ў якой дамагаецца між іншым аддзяленьня украінскае царквы ў Польшчы, выбараў украінскага праваслаўнага мітрапаліта, утварэньня дзьвёх праваслаўных украінскіх епархіяў, выбару украінскае царкоўнае Рады, зацьверджаньня яе статуту і прызнаньня яе сынодам украінскае праваслаўнае царквы ў Польшчы, зрыву ўсялякіх адносін з польскай праваслаўнай царквой.

### Зачыненьне сэсіі Сойму.

25 сакавіка віцэ-старшыня Рады Міністраў п. Бартэль у часе паседжаньня Сойму прачытаў гэткі дэкрэт Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі:

„На аснове 25 арт. Конституцыі, зачыняю з сёньняшнім днём звычайную і бюджэтную сэсію Сойму. Варшава, 25 сакавіка 1927 году".

Ходзяць чуткі што, над'звычайная сэсія Сойму будзе склікана ў апошнія дні красавіка.

# Аб усім патроху.

### ЯКІЯ САМІ — ТАКІЯ Й САНІ.

Савецкі сьледавацель — няпісьменны.

Кракаўскі „Ilustrowany Kurjer Codzienny" падае гэткую корэспондэнцыю з Беластоку:

„Беластоцкі Акружны Суд разглядаў справу жыхара вёскі Шчыты, Орлеўскае воласьці, 33-х гадовага Мікалая Стойкі. Улетку 1926 г. ў ваколіцах вёскі Орля, Бельскага павету сыстэматычна раскідалася камуністычная бібула. Мясцовыя ўлады падазравалі, што гэта—работа Мікалая Стойкі. Вобыск, зроблены ў яго ўночы на 8 верасьня сапраўды выкрыў камуністычныя адозвы і брашуры. Далейшая сьледзтва устанавіла, што Стойка належаў да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і спаўняў абавязкі раённага тэхніка гэтае партыі. Дзеля гэтага пракурорская ўлада пацягнула Стойку да адказнасьці за удзел у змове, якая імкнецца да зваленьня таго што істнуе грамадзкага ладу.

На судзе устаноўлена, што Стойка ў 1918 — 1920 гадох быў сьледавацелем аднае з чразвычаек у Саветах. Займаў ён гэтае палажэньне, ня гледзячы на тое, што зьяўляецца анальфабэтам (няпісьменным).

Стойка засуджаны на 4 гады цяжкага вастрогу".

### ДАЎНО ПАРА.

Пашпарты будуць выдавацца ў воласьці.

Віленская часопісь „Kultura" піша, што ў найбліжэйшыя дні міністар унутраных справаў гэнэрал Складкоўскі мае выдаць распараджэньне, на моцы якога выдаваньне пашпартоў (dowodów osobistych) будзе пераказана валасным установам.

Дасюлешні спосаб адтрымліваньня гэтых дакумэнтаў толькі ў старраствах — нядобры тым, што патрабуе ад зацікаўленых асобаў марнаваньня часу, грошай і падарожных трудоў, калі чалавек жыве далёка ад павятовага места.

Жальбы, якія па гэтай прычыне чуў міністар, калі аб'яжджаў усходнія ваяводзтвы, схілілі яго занявцца ўхіленьнем гэткіх недамаганьняў.

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### ПАДСЛУХАНАЯ ГУТАРКА.

— Дзе ты жывеш?
— Проці калодзезя,
— Якога калодзезя?
— Проці таго, што каля мае хаты.

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ.

— Што гэта вы робіце?
— Магілу капаю, пане.
— Я думаў, што ў гэткай прыгожай ваколіцы, як ваша, людзі паміраюць ня часта.
— Ня часта, пане, больш аднаго разу ў нас яшчэ ніхто не памёр.

### ЗАГАДКІ.

1. Бяз рук, бяз ног, а ўгару лезе.
2. У вадзе родзіцца, а вады баіцца.
3. Ад неба адарваўся, а ў зямлю схаваўся.

# Паштовая скрынка.

Грам. Юрдынскаму. Газэту высылаем.

Грам. Чурыла В. Маеце здольнасьці пісаць у газэту. Ваш артыкул „Браты Беларусы"!—поўнасьцю ня можа быць надрукованы. Некаторыя выняткі з яго будуць з часам пададзены да друку, як характарныя для настрояў сялянства, якое расчаравалася ў розных партыях і жадае творчае гаспадарчае і культурнае працы. Просім пісаць надалей. Газэту высылаем. Аб вашых варунках пагаворым у прыватным пісьме, якое вышлем поштаю.

Грам. Яз. Бяздольнаму. Пісьмо Вашае друкуем у сягоньняшнім нумары. Корэспондэнцыю выкарыстаем. Пішэце далей. Газэту пасылаем, як для Вас, гэтак сама і пробныя нумары па адрэсох, якія Вы нам падалі.

Грам. Дудкоўскаму Аляксандру. Газэту высылаем. Чакаем абяцанай корэспондэнцыі аб жыцьці вёскі і ваколіцаў.

Грам. П. Каўбаску. Газэту высылаем.

Грам. Забельскаму Янку. Радзім прачытаць кніжку ў польскай мове: „Rolnik wzorowy". Можна дастаць у Вільні ў польскай кнігарні—„Księgarnia Nauczycielska". Рэдакцыя можа дапамагчы вам у гэтай справе і выслаць, па адтрыманьні задатку, наложным плацяжом. Газэту высылаем.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Pax", вул. Сьв. Ігната 5.